*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 79 (4331)**

5 кастрычніка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Народная Воля

спецвыпуск

БЛІЦ

*Аляксандр Лукашэнка распарадзіўся адмяніць «начны сухі закон», які ў якасці эксперыменту быў уведзены з 1 кастрычніка ў Мінску і некаторых райцэнтрах. Хоць такая мера паспяхова дзейнічае ў шэрагах цывілізаваных краін. Аргумент кіраўніка дзяржавы: змагацца з алкагалізмам трэба не забаронамі, якія могуць прывесці да росту ценявога рынку і крымінальнай сферы. А якое меркаванне на гэты конт у грамадства?*

## «Начны сухі закон» — мера разумная ці малаэфектыўная?

### Леанід СПАТКАЙ, лётчык, палкоўнік у запасе:

– Забарона нічога не дасць. Не прадавалі ў нас гарэлку падчас жніва – і што? На вёсцы сталі менш піць? Не так трэба вытраўляць гэтую згубную звычку. Тым больш забарона можа падштурхнуць да распаўсюджвання кантрафакту, асабліва ва ўсходніх рэгіёнах, на мяжы з Расіяй, адкуль і будуць вазіць сурагат. А гэта – алкагольныя атручванні, гэта – смерці.

На мой погляд, праблему алкагалізацыі народа трэба вырашаць па-іншаму. Паляпшаць культуру, у тым ліку і пітва, і павышаць узровень жыцця – тады і піць будуць меней.

### Вольга МЫЧКО, дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Пастаяннай камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы:

– Алкагалізацыя – вельмі сур'ёзная праблема для нашага грамадства і, на жаль, сёння ў краіне няма добрай стратэгіі, як з гэтай з'явай змагацца…

Чаму не атрымліваецца адвучыць беларусаў піць? Усе ведаюць, што ў прыродзе няма абсалютнага вакууму, любая прастора заўсёды запоўнена. Так і ў жыцці – любы вакуум трэба чымсьці запаўняць. Калі лічыш, што ты ў тупіку, што зарплата маленькая, а начальнік дрэнны, што ўсё кепска і пачынаеш набалелыя праблемы «глушыць» алкаголем, дык гэта – ад ляноты і адсутнасці адказнасці за сваё жыццё і за сваіх родных. Нам трэба задумацца, як змяніць сітуацыю, погляды людзей, якія, заўважу, прывыклі да набору нейкіх гарантый: дзяржава абавязана – і ўсё! Але давайце адыдзем ад слова «дзяржава», давайце паглядзім на саміх сябе. Паважаю Джона Кенэдзі, які казаў: не пытайся, што твая краіна зрабіла для цябе, пытайся, што ты можаш зрабіць для краіны.

### Аляксей ДУДАРАЎ, драматург:

– Той, хто не п'е днём, не будзе піць і ноччу, а хто п'е днём – знойдзе гэтую атруту і ноччу. Адзінае, што калі ён будзе набываць гарэлку ў гандлёвых кропках, якія маюць ліцэнзію і адказваюць за тое, што прадаюць, – гэта ўсё ж такі нейкая бяспека.

А калі разглядаць праблему больш шырока, то, на мой погляд, самае галоўнае ў барацьбе з п'янствам – гэта самавыхаванне. Мы не верым у Бога. А злоўжыванне алкаголем – гэта грэх. Там, дзе Бог, там няма п'яніц.

### Вольга АНДРЭЕВА, псіхолаг:

– У нас гэтая праблема выходзіць у палітычную плоскасць. Напрыклад, у Нямеччыне ні адзін гастраном не працуе ў нядзелю, і ніхто гэтае абмежаванне не пераводзіць у палітыку.

Ноччу за алкаголем ідзе толькі той, каму не хапіла, і ствараць асобную інфраструктуру для такіх людзей, на мой погляд, няправільна. Усе тлумачэнні, што на рынку з'явіцца шмат сурагату, асабіста для мяне не пераканаўчыя. Хто будзе купляць няякасную прадукцыю? Чалавек з мазгамі гэтага рабіць не стане, таму што гэта згуба для здароўя. А тым, каму напляваць на сябе, яны і без начнога продажу алкаголю п'юць усё, што трапляецца.

### Лідзія Хмялеўская, пенсіянерка:

– Рацыянальнае зерне ёсць і ў нейкіх забаронах, і ў словах прэзідэнта. На мой погляд, калі ўжо і ўводзіць абмежаванні, то як у Скандынавіі – прадаваць алкаголь вельмі дорага. А для тых, хто зарабляе самагонам ці самаробным вінам, увесці вельмі строгую крымінальную адказнасць.

### Ігар МЕЛЬНІКАЎ, гісторык:

– Я чалавек, які вельмі далёкі ад алкаголю, але супраць любых забарон на продаж яго. Аднак пры гэтым нашай дзяржаве трэба падумаць над тым, як адцягнуць звычайнага беларуса ад бутэлькі. У чалавека павінен быць стымул да радасці: добрая работа, цікавае хобі (якое таксама вынікае з заробку), нармальныя жыллёвыя ўмовы… Але калі чалавек бярэ бутэльку, каб збегчы ад цяжкай рэчаіснасці, то гэта лечыцца не забаронамі і спортам, а паляпшэннем умоў жыцця.

### Ірына НАРЭЙКА, мастак:

– У дадзеным выпадку падтрымліваю пазіцыю кіраўніка дзяржавы. Забаронамі нічога не даб'ешся. Лепш піць нармальны напой, чым прыбягаць да нейкага дэнатурату.

### Анастасія ФАЛЬКОВІЧ, дызайнер адзення:

– Яшчэ да адмены Аляксандрам Лукашэнкам «начнога сухога закона» дабіралася дадому на таксі, і кіроўца распавядаў, што цяпер у яго выручка будзе значна большая, таму што павялічыцца продаж спіртных напояў. Расказваў, як ноччу алкашы выскокваюць на дарогу за бутэлькай і нават не просяць рэшту…

Я жыву ў Серабранцы, начнікоў там няма, але ёсць бабулі, якія заўсёды гатовы прадаць бутэлечку тым, каму карціць выпіць. Так што з алкагалізмам трэба змагацца іншымі метадамі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**




МІНСК–НЬЮ-ЁРК

## Уладзіміра Макея пачулі ў ААН

Міністр замежных спраў Беларусі выступіў у штаб-кватэры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з дакладам падчас мерапрыемства па тэме "Парадак дня ў галіне ўстойлівага развіцця да 2030 года як каталізатар змен праз партнёрства".

Пасяджэнне ў фармаце "круглага стала" было ініцыявана беларускім бокам па выніках рэгіянальнага форуму "Пабудова партнёрства ў падтрымку нацыянальных намаганняў у галіне ўстойлівага развіцця", які прайшоў у Мінску 21–22 лютага 2018 года.

СВАБОДА СЛОВА

## Вердыкт Еўрапарламента

Учора Еўрапарламент прыняў чарговую рэзалюцыю, у якой адзначыў, што ў Беларусі працягвае пагаршацца сітуацыя са свабодай СМІ.

Еўрапарламент згадваеператрусы, якія адбыліся сёлета ў жніўні ў рэдакцыях tut.by і БелаПАН у сувязі са «справай БЕЛТА». Затрыманні журналістаў і рэдактараў па гэтай справе Еўрапарламент разглядае як неадпаведную меру і заклікае беларускія ўлады зняць з іх усе абвінавачанні. Таксама еўрапарламентарыі заклікаюць афіцыйны Мінск неадкладна спыніць блакіраванне сайта «Хартыя'97» на тэрыторыі краіны. Таксама Еўрапарламент ухваліў дзеянні ўрадаў Польшчы і Літвы па падтрымцы незалежных СМІ.

Дэпутаты Еўрапарламента заклікалі вызваліць беларускіх паліт-вязняў **Міхаіла Жамчужнага** і **Зміцера Паліенку** і выказалі шкадаванне ў сувязі з прысудамі кіраўнікам незалежнага прафсаюза РЭП **Генадзю Фядынічу** і **Ігару Комліку**.

спецвыпуск



# Скажам НЕ смяротнаму пакаранню!

*Традыцыйна з 5 па 10 кастрычніка ў Беларусі праходзіць Тыдзень супраць смяротнага пакарання. На гэты раз праваабаронцы і прыхільнікі адмены смяротнага пакарання маюць намер прыцягнуць увагу грамадскасці да ўмоў утрымання зняволеных у камерах смяротнікаў. Кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» прапануе наступную афішу мерапрыемстваў.*

### 5 кастрычніка, Віцебск.

Фестываль «Рок за жыццё». Музыканты ў падтрымку ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне (Re1ikt, «Разбітае сэрца пацана», Teleport і Nizkiz).

*Бітлз-клуб «Чардачок», вул. Кастрычніцкая, 12. Пачатак у 20.00.*

**6 кастрычніка, Вішнева, Валожынскі раён.**

Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі. Імша, прысвечаная Святому Аброзію Медзіяланскаму (340–397 гг.). Святы Аброзій вядомы тым, што выступаў супраць смяротнага пакарання.

*Пачатак у 12.00.*

### 7 кастрычніка, Мінск.

Фестываль «Рок за жыццё». Музыканты ў падтрымку ўвядзення мараторыя на смяротнае пакаранне (Nizkiz, «Петля Пристрастия», «Мутнаевока», SnopSnoŭ і Teleport).

*Клуб RE:PUBLIC, вул.Прытыцкага, 62. Станцыя метро «Кунцаўшчына». Пачатак у 17.30.*

### 8 кастрычніка, Мінск.

Паказ фільма «Забіванне камнямі Сараі М» на тэму смяротнага пакарання з абмеркаваннем і ўдзелам актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» і валанцёраў-праваабаронцаў.

*Прастора PUNKT, вул. Кастрычніцкая, 23а. Пачатак у 19.00.*

### 9 кастрычніка, Гомель.

Паказ фільма «Годная справа» па тэме смяротнага пакарання з абмеркаваннем і ўдзелам актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» і валанцёраў-праваабаронцаў.

*Цэнтр беларускай мовы. вул. Працоўная, 7а, 2-і паверх. Пачатак у 19.00.*

### 9 кастрычніка, Слуцк.

Паказ фільма «Змоўшчыца» па тэме смяротнага пакарання. Дыскусія і абмеркаванне з удзелам праваабаронцаў і актывістаў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» **Андрэя Палуды і Паліны Сцепаненка.**

*Кафэ «Гном», вул. Уласаўца. 7А. Пачатак у 18.00.*

### 10 кастрычніка, Мінск.

Прэзентацыя выставы «Кожны мае права ведаць свае правы». Відовішча з удзелам вядомай мастачкі і перформера **Таццяны Тур**. Перформанс, прысвечаны праблеме смяротнага пакарання, распавядзе аб пакутах родных і блізкіх асуджаных.

*Амбасада Літоўскай рэспублікі, вул. Захарава, 68.*

### 10 кастрычніка, Магілёў.

**Форум-тэатр «Куля ад грамадства».** *Цэнтр «Кола», зав. Чкалава, 16. Пачатак у 18:30.*

### 10 кастрычніка, Страсбург.

Выступленне праваабаронцы **Валянціна Стэфановіча** на тэму смяротнага пакарання ў Камітэце па прававых пытаннях і правах чалавека ПАСЕ Савета Еўропы.

Таксама ў гэты дзень праваабаронцы і актывісты правядуць на вуліцах рэгіянальных гарадоў Беларусі інфармацыйныя акцыі з нагоды Сусветнага дня супраць смяротнага пакарання.

**P.S.** *Нагадаем, што першы Тыдзень супраць смяротнага пакарання прайшоў у 2013 годзе ў межах кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», якая распачалася ў 2009 годзе з мэтай спынення гэтага бесчалавечнага віду пакарання і далучэння нашай краіны да агульнаеўрапейскіх каштоўнасцяў. На жаль, Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе і на постсавецкай прасторы, дзе выносяцца і прыводзяцца ў выкананне смяротныя прысуды.*

*(Працяг на 5-й і 6-й стар.)*

ФАКТ

## Чем недовольны белорусы

Можно много говорить о качестве жизни, но, пожалуй, самым убедительным аргументом в споре, хорошо или плохо живется белорусам, будет статистика.

Недавно в журнале «Социологический альманах» были опубликованы некоторые результаты соцопроса, который проводил государственный Институт социологии НАН Беларуси. Из ответов следует, что больше всего нареканий у жителей страны вызывают жилищно-коммунальная сфера и здравоохранение, а справляться с жизненными сложностями помогают семья, друзья и деньги, а не закон и хорошее образование.

**Распределение ответов на вопрос «Удовлетворены ли вы качеством услуг по месту вашего жительства?», %**

| Сфера услуг | Вариант ответа | |
|---|---|---|
| | да | нет |
| Здравоохранение | 45,0 | 41,4 |
| Образование | 55,4 | 23,9 |
| Пенсионное обеспечение | 28,3 | 32,5 |
| Жилищно-коммунальное обслуживание | 38,7 | 43,3 |
| Организация досуга и отдыха | 45,5 | 30,0 |
| Социальная защита | 32,7 | 30,8 |
| Объекты культуры (кинотеатры, библиотеки, музеи, театры и т.д.) | 53,1 | 24,6 |
| Общественный пассажирский транспорт | 57,3 | 24,8 |

**Распределение ответов на вопрос: «Что помогает бороться и справляться с жизненными проблемами и сложностями?»**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| Семья | 78,5 |
| Жизненный опыт | 61,4 |
| Деньги | 61,2 |
| Друзья | 56,1 |
| Деловые качества | 41,1 |
| Профессиональные знания, умения | 39,2 |
| Нравственные качества | 38,8 |
| Информированность | 38,4 |
| Вера в Бога | 37,0 |
| Личный авторитет, известность, репутация | 36,9 |
| Наличие нужных связей, знакомств | 36,1 |
| Наличие собственности | 32,2 |
| Хорошее образование | 30,4 |
| Занимаемая должность | 23,8 |
| Престиж профессии | 21,4 |
| Обращение к закону | 21,1 |
| Государство | 17,5 |
| Участие в политической жизни | 10,5 |

СЛЫШАЛИ?

## Для государственных телеканалов – гигантский медиацентр

*В Минске задумали еще одну великую стройку – гигантский медиацентр для государственных телекомпаний и радиостанций. Министерство информации уже объявило конкурс на разработку архитектурной концепции медиацентра.*

Медиацентр помимо помещений для редакций будет включать в себя несколько больших съемочных павильонов с высотой потолков до 17 метров, пресс-центр, кафе и бары.

Из прописанных условий конкурса получается, что общая площадь медиацентра превысит 50 тысяч квадратных метров. Причем основные площади будут разделены между четырьмя телекомпаниями. Можно предположить, что это будут БТ, ОНТ, СТВ и «Мир».

Архитекторы, отмечает портал naviny.by, оценивают приблизительную стоимость проекта в 250 миллионов долларов.

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Мацнеем разам з Вамі!

Так, шаноўныя чытачы, «Народная Воля» будзе пачуваць сябе больш моцнай, калі Ваша аўдыторыя значна пашырыцца.

Беларусь чакаюць лёсавызначальныя падзеі – чарговыя парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. І адкуль, як не з нашай газеты, Вы зможаце чэрпаць праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю, з тым каб правільна вызначыць сваю грамадзянскую пазіцыю?

Разам мы вызначым будучае нашай роднай Беларусі! Разам мы паспрыяем узмацненню ролі «Народнай Волі» ў яе развіцці, у фарміраванні новай нацыянальнай супольнасці. Падпісацца на газету можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваным пункце «Белсаюздруку». Хто яшчэ не стаў падпісчыкам «Народнай Волі» – станьце, калі ласка.




***Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!***

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 КАСТРЫЧНІКА 2018 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Развод или дружба?

О переговорах правительства с МВФ по поводу выделения Фондом кредита в 3 млрд долларов уже было забыли, поскольку они отложены на неопределенное время. Недавно новый министр финансов вдруг напомнил в своем интервью, что Беларусь продолжит переговоры с МВФ в 2020 году. Основной лейтмотив объяснений правительства по поводу отказа Фонда выделить кредит – стороны не сошлись главным образом в темпах реализации «дорожной карты» реформ, в которой расписаны все ее основные шаги.

Напомним, что эксперты МВФ рекомендовали властям прежде всего разделить функции государства как собственника и регулятора. При этом МВФ не настаивал на скорой приватизации, а вел речь об изменении нынешней системы управления государственными предприятиями. Чтобы концерны и министерства не управляли непосредственно хозяйственной деятельностью предприятий, чтобы отраслевые органы занимались выработкой экономической политики в целом. К примеру, функции управления промышленностью передаются Министерству промышленной политики, а Госкомимущество будет управлять стратегически важными предприятиями. МВФ предлагает правительству Беларуси передать госпредприятия от министерств и госконцернов под управление единой структуры – Агентства по управлению госимуществом или мегахолдинга. С чем, естественно, не согласны профильные министерства и концерны. А главное, сам президент. Потому что предприятия обретут реальную хозяйственную самостоятельность. Намечено повысить статус Национального агентства инвестиций и приватизации. Оно должно заняться поиском стратегических инвесторов для приобретения контрольных пакетов государственных ОАО через их продажу на Белорусской валютно-фондовой бирже. Соответствующие документы в правительстве в свое время были подготовлены и требовали рассмотрения и утверждения на президентском уровне. Но этого пока не последовало.

Специалисты МВФ предложили отказаться от бесконечной бюджетной поддержки особенно крупных госпредприятий, от так называемого квазибюджетного финансирования, когда бюджет погашает им кредитные проценты, от директивного кредитования госпредприятий, когда банки выдают кредиты по указанию сверху, в результате чего многие из них закредитованы и пребывают в безнадежных долгах, которые перекладываются на плечи налогоплательщиков. Определенные шаги навстречу предложениям Фонда правительство делает. Например, в плане сокращения упомянутого директивного кредитования или 100-ной оплаты услуг ЖКХ и транспортных услуг, что сделать проще, взвалив это на плечи населения. Но в остальном, а это – в главном, прогресса в экономике Беларуси не просматривается. Прежнее правительство руководствовалось словами-указаниями президента: «совершенствовать то, что есть», «чтобы система не пошатнулась». Экономика остается сверхцентрализованной, основные решения спускаются сверху, контролируются сверху, что вступает в противоречие с частнособственнической инициативой на местах. Предприятия постоянно находятся под давлением мер государственного регулирования. Директорат предприятий выполняет функции наемных менеджеров, не являясь, как правило, их собственником. В этом смысле, к примеру, указ президента №399 «О финансовом оздоровлении сельскохозяйственных организаций», административно наделяющий акциями руководителей, – шаг в правильном направлении.

Но что делать с огромной хронической кредитной задолженностью госпредприятий, с растущей кредиторской и дебиторской задолженностью, с неплатежами госсектора частным предприятиям, которые дошли до того, что долги выбиваются с помощью взяток? Лекарствами-указами ситуацию в корне не исправишь, болезнь прогрессирует. Антироссийским санкциям Запада не видно конца. Источники российских энергетических субсидий Беларуси иссякают. Ввиду недостатка собственных финансовых источников обновления основных средств, недозакладки амортизационных отчислений, отсутствия масштабных прямых иностранных инвестиций материально-техническая база многих белорусских предприятий устарела. Имеющая место модернизация отдельных предприятий, проводимая «сверху», оказалась неэффективной. Беларусь все глубже погружается в долговую ловушку.

Может, новое правительство поймет, что промедление смерти подобно, что нужны именно высокие темпы проведения реформ, предлагаемых МВФ? Министр финансов увязывает начало новых переговоров с МВФ с выполнением пятилетней программы. По мнению наблюдателей, власти пойдут на переговоры с Фондам только после проведения выборов в парламент и президентских выборов. Понятно, не дай Бог потревожить электорат болезненными последствиями жестких реформ. Но хотелось бы задать министру вопрос: Вы уверены, что МВФ пойдет на переговоры с белорусским правительством в 2020 году? Не посчитает ли очередная миссия Фонда, посетив страну, что время упущено и даже радикальная операция больной белорусской экономике уже не поможет? Дешевый, не более 3% годовых, 10-летний кредит МВФ так и останется недосягаем, а взамен придется пользоваться более дорогими российскими и китайскими займами на грани угрозы потери экономического суверенитета. А что касается отношений с Россией, то тут можно поплатиться и политическим суверенитетом. Словом, останется ли Беларусь независимым государством – над этим нужно еще хорошенько помозговать.

ДЗЕНЬ НАСТАЎНІКА

# УРОКІ Пятра Марціноўскага



Паэт Юрка Голуб, Пятро Марціноўскі і прафесар-мовазнавец Павел Сцяцко. Дзярэчын, 1983 год.

Парог Дзярэчынскай сярэдняй школы я пераступіў нясмела, з адчуваннем, што патрапіў у нейкі іншы свет. Доўгая двухпавярховая мураванка выглядала сапраўдным палацам у параўнанні з маёй ранейшай Угрынскай васьмігодкай, што размяшчалася ў двух звычайных драўляных дамках. Па новай школе я хадзіў з трымценнем у душы, якое ўзмацнялася, калі мінаў кабінет з шыльдачкай на дзвярах – «Намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце Марціноўскі Пятро Мікалаевіч». За тыя дзверы адразу пасля першавераснёўскай лінейкі я перадаў вучнёўскі сшытак з вершамі.

І вось неўзабаве мяне паклікалі ў той кабінет. Яго гаспадар з ходу агаломшыў – вершы ідуць у друк, пад іх аддаецца цэлая літстаронка «Зоры над Зальвянкай», з рэдактарам зэльвенскай раёнкі ўжо дамоўлена. А на чарговым уроку па літаратуры я буду вучыцца друкаваць на машынцы – спатрэбіцца ў жыцці... Так я пазнаёміўся са сваім настаўнікам, чые ўрокі – літаратурныя і жыццёвыя – помню да гэтай пары.

Пятро Мікалаевіч не прымушаў нас зубрыць тэксты, не псаваў нашы дзённікі кепскімі адзнакамі. Ён уздзейнічаў пераважна на душу – прыносіў у клас запісы «Песняроў», кнігі пазапраграмных аўтараў – Ларысы Геніюш, Алеся Разанава, Яўгенія Еўтушэнкі. Не баяўся расказваць пра сталінскія рэпрэсіі (на двары быў 1982 год), пра тое, як у мінскай турме катавалі Кузьму Чорнага. А аднойчы проста на ўроку паказаў нам падручнікі, па якіх вучыўся сам, – «Беларускую граматыку» Браніслава Тарашкевіча і «Беларускі правапіс» Антона Лёсіка.

Абедзве – выдання 1943 года. Дапытлівым вокам я неўзабаве зглядзеў, што наклад тых «ваенных» падручнікаў – па 100.000 асобнікаў. Лічба мяне ўразіла. Атрымлівалася, што пад нямецкай акупацыяй у Беларусі дзейнічала прыкладна 500 школ з прыблізна такой жа колькасцю вучняў, як у нашай Дзярэчынскай. Наклады Тарашкевіча і Лёсіка ў два разы пераўзыходзілі наклады аналагічных савецкіх падручнікаў!

Знайшоўшы хвілінку, каб нам ніхто не перашкаджаў, я падаўся ў роспыты да настаўніка. Аказалася, што ён пры немцах хадзіў у беларускую школу, дзе навучыўся спяваць патрыятычныя песні. Настаўнік па-маладому матлянуў густым пасівелым чубам і напаўголасу праспяваў: «Дык ці ў шчасця дзень пагодны, / Ці у буры дні благім / Знайма першы кліч народны: / Беларусь – перадусім!».

Відаць, гэтым разуменнем «Беларусь – перадусім» Пятро Мікалаевіч і прыглянуўся Ларысе Геніюш, якая жыла ў недалёкай Зэльве. Яны сябравалі, Ларыса Антонаўна называла настаўніка ласкава – Пётрачка, ён часта бываў у хаце паэткі, быў першым слухачом і распаўсюднікам яе твораў. І дагэтуль у маім архіве зберагаецца перапісаны рукой Пятра Мікалаевіча верш «Зубры», чытаны нам, старшакласнікам: «Калі пушча цвіце пралескамі, / Плешча сонца вясну з гары, / Беларускія, белавежскія / З новай сілай равуць зубры». «Як вы разумееце гэтыя радкі?» – настаўнік заахвочваў нас знаходзіць прыхаваныя падтэксты…

У гаражы Пятра Марціноўскага стаяў стары матацыкл з люлькай. Месца яму ў музеі, бо на ім настаўнік вазіў Ларысу Геніюш у няблізкія Гудзевічы і Палаўкі, адкуль яна была родам. Пра тую паездку жыхары згаданых вёсак успамінаюць і сёння – гасцям удалося выехаць дахаты толькі на трэці дзень…

Помню, як 10 красавіка 1983 года нас, дзевяцікласнікаў, адпусцілі дамоў на гадзіну раней – быў адменены ўрок літаратуры, бо настаўнік ездзіў у Зэльву на пахаванне Ларысы Геніюш. Назаўтра ён запрасіў мяне да сябе дахаты, расказаў пра ўбачанае і даў прачытаць аддрукаваныя на тонкай папіроснай паперы вершы паэткі. Найбольш уразіў мяне твор, жанр якога я і сёння не бяруся вызначыць – ці то нізка вершаў, ці то паэма. У ім апісваўся допыт паэткі ў мінскай турме: «Стаю, бы ў бoі, не з палахлівых, / а ён – як звер: / «Дзе ёсць архівы, аддай архівы / мне БНР!»

«Ён – гэта Цанава, міністр дзяржбяспекі БССР, якога за вочы называлі Лаўрэнцій ІІ. Першым быў Берыя», – праніклівa гледзячы мне ў вочы, тлумачыў настаўнік. Праз два гады з «турэмным» творам Ларысы Геніюш пазнаёміліся мае аднакурснікі на філфаку БДУ. Мы нават надрукавалі яго ў студэнцкім самвыдатаўскім часопісе «Парсуна».

На філфак сталічнага ўніверсітэта я трапіў таксама дзякуючы Пятру Марціноўскаму. Ён асабіста завёз мяне ў Мінск і так адрэкамендаваў у прыёмнай камісіі, што я адчуў сябе студэнтам задоўга да ўступных іспытаў. А потым завёў у рэдакцыю тыднёвіка «Літаратура і мастацтва», дзе мяне з першай публікацыяй павіншаваў сам Янка Брыль.

Помніцца, мяне тады здзівіла, што многія сталічныя пісьменнікі – Уладзімір Ягоўдзік, Алесь Траяноўскі, Алесь Жук, той жа Брыль – ведаюць пра нашу раённую літстаронку «Зоры над Зальвянкай», ахвотна прапануюць для яе свае творы. Зэльвенскія «Зоры…» свяціліся на ўсю Беларусь. І запальваў іх – цягам амаль 30 гадоў – мой настаўнік.

«Скажыце, калі зоркі запальваюць – значыць, гэта каму-небудзь трэба?» – роспачна пытаўся «найлепшы паэт савецкай эпохі» ў свайго змрачнаватага стагоддзя. Таму што сапраўды невыносна жыць у цемры. Таму што святло – гэта жыццяносныя капіляры, па якіх струменіць касмічная энергія, без якой і травінка не вырасце, і чалавек пірамiды не пабудуе. Але святло бывае дваякае. У балгарскай мове існуе нават два тэрміны – *відзеліна* і *светліна*. Відзеліна – святло звычайнае, якое саграваe нашы целы, якое мы бачым. А светліна – святло нябачнае, духоўнае, якое саграваe нашы душы і без якога чалавек таксама не можа пражыць.

«Зоры…» Пятра Мікалаевіча Марціноўскага – промень да промня – акурат і складаліся ў нябачную светліну над Беларуссю. «Зоры…» займаліся над ззалелай Зальвянкай у любую пару года. І мы, іх гадаванцы, бачылі тую светланосную аўру над нашай малой радзімай, і нам было светла, дзе б мы ні знаходзіліся.

А колькі я начуўся ад свайго настаўніка гісторый пра Дзярэчын старадаўні, сапегаўскі! Помніцца, сядзім неяк з Пятром Мікалаевічам у ягонай хаце, смакуем вінаграднае віно (сябры называлі яго *дзярэчынскае марціні*), і раптам ён кажа: «Хадзем, пакажу тое, чаго не бачыў ніхто».

На той час я ўжо быў аўтарам кнігі «Дзярэчынскі дыярыуш» і, перавярнуўшы горы архіўных дакументаў, саманадзейна думаў, што ведаю пра наша 600-гадовае мястэчка ўсё.

А настаўнік узяў пад паветкай рыдлёўку, перайшоў вуліцу, на вока вызначыў аднаму яму вядомыя азімуты і пачаў капаць. І праз пяць хвілін мы з крэхтам узнялі чыгуннае века над старым пажарным калодзежам, збудаваным яшчэ за палякамі! Гадоў 80 той калодзеж ніхто не адчыняў, вада звыклася да бетоннай цямніцы, як арыштант да пажыццёвага зняволення. А тут ёй дазволілі ўдыхнуць свежага паветра, убачыць над сабой сонечнае неба.

А яшчэ мой настаўнік быў надзвычай гасцінным чалавекам. У ягонай прасторнай хаце перабыла палова Саюза пісьменнікаў – Аляксей Карпюк, Алег Лойка, Уладзімір Ягоўдзік, Данута Бічэль, Юрка Голуб, Уладзімір Мазго, Алесь Чобат...

Прафесар Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Павел Сцяцко месяцамі жыў у Дзярэчыне, збіраў матэрыялы для слоўніка Зэльвеншчыны.

А Слонімскі драматычны тэатр аднойчы зімою ехаў з гастроляў па Гродзеншчыне. Акцёры замерзлі, вырашылі заехаць да Марціноўскага. А гаспадара дома не аказалася. І тады супрацоўнік тэатра Сяргей Чыгрын на правах сябра адшукаў ключ, адчыніў дзверы не толькі ў хату, але і ў камору. Уся трупа, чалавек пятнаццаць, пачаставалася тым самым марціні, падсілкавалася, пагрэлася і паехала далей на Слонім. Назаўтра Сяргей патэлефанаваў у Дзярэчын з падзякай, а Пятро Мікалаевіч кажа: «А я і не заўважыў, што нехта ў маёй хаце гасцяваў. Заязджайце яшчэ!»

Хто ў наш час позна ўвечары пусціць у сваю хату цэлы тэатр?

Дзярэчын далёка на захад відзён сваім гатычным касцёлам. На ўсход – царкоўнымі купаламі. Але мне, адкуль ні скіроўваўся дахаты, бачыліся не высокія вежы з купаламі, а – агеньчык у хаце Марціноўскага. Гэта быў маяк, на які хацелася ісці і ехаць за сотні кіламетраў.

Калі ў апошнія гады Пятро Мікалаевіч занядужаў і вымушаны быў ездзіць у інвалідным вазку (яму ампутавалі нагу), я прынёс свайму настаўніку кнігі Ніны Мацяш і Арсенія Таркоўскага. Паэтаў, якія і без ног былі нястомнымі хадакамі па неабсяжных прасторах жыцця. Думаў падбадзёрыць свайго настаўніка, каб не здаваўся, не капітуляваў перад хваробай. І ён да апошняга трымаўся, дайманы фантомнымі болямі, прасіў, як лекі, новую беларускую кнігу, свежы нумар «Народнай Волі»…

«Беларусь – перадусім»… Як на мой цяперашні розум, Пятро Мікалаевіч выкладаў нам не толькі мову ды літаратуру, але яшчэ і прадмет, якога няма ў школьных раскладах, – радзімазнаўства. Вучыў любіць Радзіму не абстрактную, а тую, якая была вакол, якая цэлілася ў неба дзярэчынскім касцёлам, якая смяялася, плакала, спявала і малілася па-беларуску, якую трэба было шукаць і раскопваць, нібы той асуджаны да небыцця калодзеж.

Урокі радзімазнаўства, атрыманыя ад Пятра Марціноўскага, я буду помніць, пакуль жыву.

**Міхась СКОБЛА.**

НУ І НУ!

# Спазніўся з рэгістрацыяй? Можаш згубіць 490 рублёў

*У Гродзенскім раёне аштрафавалі гаспадара аграсядзібы за тое, што ён несвоечасова прадставіў звесткі аб замежным грамадзяніне, які ў яго пасяліўся.*

Паводле новых правілаў, якія дзейнічаюць з 1 кастрычніка 2017 года, такая інфармацыя ў органы ўнутраных спраў павінна падавацца на працягу трох гадзін. Гаспадар аграсядзібы не прыдаў гэтаму значэння і паведаміў аб госцю са Славакіі толькі праз трое сутак. Санкцыі артыкула за такое парушэнне прадугледжваюць папярэджанне альбо штраф ад 4 да 20 базавых велічын.

Дадзены факт быў выяўлены падчас правядзення спецаперацыі «Нелегал», якая адбывалася ў Гродзенскім раёне з 17 па 25 верасня. У гэты перыяд супрацоўнікі Гродзенскага РАУС прыцягнулі да адказнасці за парушэнне міграцыйнага заканадаўства 24 чалавекі. Часцей за ўсё замежныя госці не жылі па месцы рэгістрацыі альбо забываліся працягваць дазвол на часовае знаходжанне ў Беларусі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Васіль ПАЛЯКОЎ: «Зараз я, скажам так, узяў тайм-аўт…»

*Былы старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі распавёў «Народнай Волі», чым ён займаецца пасля таго, як пакінуў выбарчую пасаду.*

Нагадаем, што **Васіль Палякоў** быў абраны кіраўніком АГП 8 ліпеня, змяніўшы ў гэтым крэсле **Анатоля Лябедзьку**. Але ўжо праз два з паловай месяцы звярнуўся да Палітсавета партыі з заявай аб складанні паўнамоцтваў кіраўніка арганізацыі. Адстаўка была прынята.



**– Чым вы займаецеся пасля таго, як выйшлі з кіраўніцтва АГП?**

– Я зараз не ўваходжу ні ў якія кіруючыя органы партыі, таму, можна сказаць, вольны чалавек. Хаця застаюся шараговым сябрам АГП. Як і раней, жыву ў Гомелі, у бліжэйшай будучыні планую займацца ў сваім рэгіёне грамадскай дзейнасцю ў межах адной праваабарончай ініцыятывы. Адна з нашых асноўных задач – падрыхтоўка скаргаў у Камітэт па правах чалавека ААН.

**– А ў жыцці Аб’яднанай грамадзянскай партыі будзеце браць удзел?**

– Зараз я, скажам так, узяў тайм-аўт. Трэба разабрацца з тым, што адбываецца, і прыняць рашэнне.

**– Не шкадуеце, што ў свой час пагадзіліся вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні АГП?**

– Відавочна, што гэта быў рызыкоўны крок з майго боку. Хаця на той момант я не бачыў іншых варыянтаў. Была нейкая перспектыва, ідэі, думаў, што можна дасягнуць пэўных мэт… Але, на жаль, рэаліі аказаліся зусім не такімі, якіх я чакаў.

**– А якія былі ў вас чаканні?**

– Мне здавалася, што на першым месцы ў партыі павінны быць нейкія ідэалы і каштоўнасці, але ў выніку высветлілася, што трэба штодзённа вырашаць розныя пытанні з утрыманнем партыйнай інфраструктуры. Гэта, натуральна, таксама патрэбна, але ўсё-такі хацелася б, каб такія праблемы былі другаснымі.

**– Былы кіраўнік партыі Анатоль Лябедзька казаў, што, калі сыходзіў, пакінуў пераемніку «ўсе кантакты партнёраў і ўсе камунікацыі»…**

– Шчыра кажучы, не хачу гэта каментаваць. Адно магу сказаць: нават калі партыя аб’явіць збор ахвяраванняў, гэта не вырашыць праблему. Калі б гэта было так, то можна было б рухацца наперад. Можна закрыць фінансавыя пытанні на месяц-два, але ў доўгатэрміновай перспектыве праблема нікуды не знікне.

**– Раней дэпутат Палаты прадстаўнікоў і сябра АГП Ганна Канапацкая заяўляла пра крызіс Аб’яднанай грамадзянскай партыі. Гэта так?**

– Зараз увогуле ў краіне адбываецца крызіс палітычнай сістэмы. А апазіцыйныя партыі – частка гэтай сістэмы. Таму ўсё ўзаемазвязана.

**– У гэты момант абавязкі старшыні АГП выконвае Мікалай Казлоў. На ваш погляд, ці ўдасца яму вырашыць партыйныя праблемы?**

– У Казлова зараз больш выйгрышная сітуацыя, чым была ў мяне. Зараз ён не старшыня партыі, а выконвае абавязкі кіраўніка. Калі я не мог вырашыць нейкія пытанні, то ўсе прэтэнзіі былі да мяне. А Мікалай як быццам узяў на сябе воз у цяжкую хвіліну. Таму ён выведзены з-пад таго ўдару, пад які трапіў я. Але няхай у яго ўсё атрымаецца.

**– Калі б вярнуць час назад, ці балатаваліся б вы на пасаду старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі?**

– Безумоўна, не.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

